№ 65 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перасылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрациі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 65 (261). Год III. Вільня, 20 жніўня 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## 19 жніўня.

**Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: На захад ад Байель пасьля вельмі вялікага агню пачаліся англіцкіе атакі між Мэтэрн і Мэріс. Яны былі адбіты ў нашых пярэдніх баевых лініях. Наабапал Ліс ажыўленые разьведкі. На поўнач ад Анкр мы пасунулі ўпярод нашые лініі і ўзялі палонных.

*Фронт гэнэрал-ан-шэфа ф. Бэн'а*: Між Анкр і Уаз заўзятая агневая бітва. На паўдня ад Сомм адкінено наступленьне аўстралійскага войска проці Гэрвіль. На захад ад Руа нашае наступленьне было ўдачнае. Французскіе атакі наабапал дарогі Ам'ен—Руа часьцю контратакамі адкінены. Некалькі панцырных аўтамобіляў разьбіто артылерыйскім агнём і ручнымі гранатамі. На палудзень ад Авр зламаліся другіе штурмы непрыяцеля. Непрыяцель уварваўся у заходнюю часьць Бэврэнь. Мы ўзялі аттуль нашые войскі на ўсходнюю часьць. Пры Ля Сіньі мы адкінулі некалькі наступленьняў ворагаў. Між Уаз і Эн вялікая артылерыйская бітва. Пад вечар непрыяцель атакаваў між Карльпон і Нуврон. У заўзятых бітвах мы задзержалі непрыяцельскі штурм, каторы ўсюды зламаўся перад нашымі пазыцыямі.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: Агнявая бітва і дробные стычкі.

---

ВЛАДЫВАСТОК. Чэха-славацкі глаўнакамандуючы паслаў прэдстаўніком саюзьнікаў мэморыал, у каторым выясьняе, што канечна патрэбна больш хуткая і больш шырокая падмога, каб заняць Іркуцк. Калі войскі саюзьнікаў праз 6 тыдняў ня займуць Іркуцка, дык гэта адналькава с пагібельлю ўсіх чэха-славакоў.

ШТОКГОЛЬМ. Наступнік Каледіна Богаевскі выступіў проці супольнай дзейнасьці с чэха-славакамі. Ен склікае казацкі з'езд у Ніжні Уральск, каб пастанавіць там адлучыцца ад саюзьнікаў.

КІЕУ. «Русскій Голосъ» наказывае: «Дарожнікі наказываюць, што пасьля заняцьця Грузіі нямецкімі войскамі там прыкладны парадак. Усюды ёсьць жаданьне высунуць грузін на першае месца. Арганізацыя рэгулярнай грузінскай арміі ідзе ўперад.

У Самары ўтварыўся «Камітэт членаў установчага сэйму», каторы абвесьціў сябе ўсерасейскім урадам. Большасьць яго складаецца с соцыял-рэвалюцыанераў. Ваенная ўласьць у руках чэхаславакоў. Пры камітэце ёсьць прэдстаўнік саюзьнікаў.

БЭРЛІН. Англіцкі ваенны карэспандэнт Вільі, што быў доўгі час на паўночна-заходнім фронце Індыі, наказывае, між іншым, у аднэй амэрыканскай газэце: „Спачатку вайны там былі заўсёдные бітвы. Момандзкіе плямёны нам дужа дадзевалі. Пастаянные напады мясцовых жыжараў меняліся з нашымі каральнымі экспэдыцыямі. Нам рэдка ўдавалося браць палонных. Ранейшая наша індыйская армія ўся паслала ў Эўропу. Мы карысталі аэроплянамі і панцырнымі аўтомобілямі.

БЭРН. У 6-х выбарных акругох Нью-Іорка зроблены прадвыбарны блёк між рэспубліканцамі і дэмакратамі. Гэты блёк перад выбарамі ў конгрэс паказывае баязьнь перад пашырэньнем соцыялістычных рухаў у Амэрыцы. Усе кажуць, што выбары ў сэнат і конгрэс адбудуцца пад лёзунгам: вайна ці мір.

БЭРН. Амэрыканскі міністэр грашавых спраў дамагаецца павышэньня падаткаў на зыскі ў часе вайны ў разьмеры 80%. Гэткім спосабам, на яго думку, можна пакрыць 40 мільярдаў падатку.

БЭРЛІН. Знаходзячыйся тут украінскі міністэр-прэзыдэнт Лізагуб заявіў карэспандэнтам газэт, між іншым: «Перш-на-перш трэба выясьніць справу аб граніцы і фінансах. Палажэньне ў Украіне робіцца ўсё мацнейшым. Злосьць, паддзержываная чужымі грашыма проці ўраду гэтмана, слабее. У найбліжэйшые 3 або 4 месяцы маскоўскіе рублі будуць выняты з ужытку і заменены карбаванцамі. Ураджай у Украіне сёлета вышэй сярэдняга».

ВЕНА. У Любляне арганізавалася паўднёва-славянская нацыянальная рада, каторая паставіла сабе мэтай дзержаўную незалежнасьць паўднёвых славян.

ШТЭТІН. Плаваньне ў балтыцкіх гаванях цяпер абвешчэно зусім свабодным.

---

С прычыны даражыні папэры і ўсё ўзрастаючай платы работнікам адміністрацыя „Гомана" прымушэна па прыкладу другіх газэт павялічыць цану сваё газэты.

Пачынаючы ад 1 кастрычніка 1918 году асобны нумэр „Гомана" будзе каштаваць 10 фэн., за месяц у месьце — 70 фэн., ва ўсім краю і заграніцай — 90 фэн.

---

*Вільня, 20 жніўня 1918.*

У Нямеччыне, ня гледзячы на тое, што вайна ўсё яшчэ йдзе поўным ходам, людзі ўжо даўно пачалі думаць аб тым, як адбудоўваць жыцьцё свае старонкі, крэпка зруйнаванае вайной. «Нельга сумлевацца,—пішэ быўшый канцлер Нямеччыны, Міхаэліс, у зборніку «Die neue Heimat», —што мірны час будзе для нас вельмі цяжкі. Ва ўсіх галінах нашага гаспадарскага жыцьця будзе выяўляцца нестача. Емінные справы, праўда, паправяцца, бо шмат чаго будзем даставаць с сумежных усходніх краёў і вернуцца да хаты салдаты, утрыманьне каторых за межамі краю было вялікім ціжарам для нашага еміннага бюджэту, — але выдайнасьць нашай сельскай гаспадаркі паменшала праз вайну на цэлы сьцяг гадоў. З заморскіх зямель с прычыны нестачы караблёў да нас будуць падвазіць мала, або й нічога, дык яшчэ доўга будзе панаваць даражыня".

Тое, што пішэ Міхаэліс аб вялікай і магутнай дзержаве, у яшчэ вялікшай меры адносіцца да нашага краю. І нам трэба больш, чым каму, прыгатаўляцца да тэй вялізарнай і цяжкой работы, якая нас жджэ ў блізкім ужо часе.

Работа гэная перш за ўсё эканамічная, бо без матэр'яльнае асновы нельга будаваць свайго дзержаўнага жыцьця. Дзеля яе патрэбна ўтварэньне спэцыяльных арганізацый, каторые-бы абслужывалі, як сьлед, беларускі народ у яго эканамічным адраджэньні. Паўзіраймася на суседніе краі —і ўсюды ўбачым тварэньне ўсялякіх таварystв, саюзаў, супалак, банкаў, хаўрусных складаў і фабрык сельска-гаспадарскіх машын і г. п. Як прыклад, можэм адзначыць на тварэньне ў Галічыне ўкраінскага парцэляцыйнага банку с капіталам на 6 мільёнаў крон; гэта ўстанова мае занімацца распрадажай селянам зямлі.

Кажучы аб нашым краю, мы не даем пакуль-што ніякага пляну, а толькі кідаем думку, зьвертаючыся да тых беларусаў і іншых шчырых грамадзян нашае Бацькаўшчыны, каторые здольны да шырэйшай эканамічнай працы, маюць патрэбнае знаньне, могуць сабраць колькі трэба, грошы і т. п. Прыйшла ўжо іх пара, і яны павінны даць Бацькаўшчыне тое, што паводлуг іх здольнасьці і сіл магчыма, разумеючы ўсю вагу вызначэнага ім жыцьцём становішча.

---

# Палякі і жыды.

Можэ каму, не знаючы нашага жыцьця, здасца непадобным да веры, што малая жменя польскіх паноў, некалі панаехаўшых с Польшчы, гэтак распаношылася на нашай зямлі, што ня толькі апалячыла ўсё тутэйшае панства, але мае вялікі апэтыт праглынуць і беларускую народную масу і спольшчыць усю Беларусь. Але, на жаль, гэта — чыстая праўда: мы, беларусы, лішне востра адчуваем уціск культуры «братняга народу», каторы стараецца навязаць нам сваю нацыанальнасьць зусім не культурнымі спосабамі... Вось-жэ, мы тым лягчэй можэм зразумець, што павінны цярпець нацыанальные *меншасьці* ў Польшчы, дзе палякі становяць не нейкую невялічкую жменю, а *панующую большасьць*, і маюць (ці прынамсі будуць мець) *уласьць* у сваіх руках.

С-паміж нацыанальных меншасьцей Польшчы найбольш ярка сваімі нацыанальнымі адзнакамі выдзеляецца жыдоўскае насяленьне. Проці яго і выступае перайшоўшы ўсе магчымые граніцы польскі нацыаналізм, захапіўшый пераважываючую часьць польскага грамадзянства. Аб польскіх адносінах да жыдоўскай справы апаведае на страніцах газеты «Berliner Tageblatt» п. Эріх Домбровскі.

Як наказываюць памянутаму аўтару, польскі ўрад маніцца праводзіць раўнапраўства ўсіх грамадзян. Але хто жыве ў Польшчы і хочэ карыстацца грамадзянскімі правамі, той павінен быць паляком. Жыды ані паводлуг месца жыцьця, ані з грамадзянскага пагляду не становяць аднароднай масы і рассыпаные сярод польскага насяленьня, яны павінны з ім зьліцца. Свабода веры мае быць для жыдоў забаспечэна; аднак, выкладовай мовай у іх школах павінна быць мова польская. Канечне патрэбна агранічэньне ў форме сьвяткаваньня нядзелі, каб жыды ў гэты дзень не рабілі конкурэнцыі хрысьцянам.

